


# Ніва

ТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 42 (1129) ГОД XXII БЕЛАСТОК 16 КАСТРЫЧНІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.

## ВАДА З КРАНА ДЛЯ ВЁСКІ



Ім малому вядома: на калодзежны жораў ці калаўрот прыемна паглядзець на панадворку музея ці ў „Этнаграфічным акенцы“ ў „Ніве“ як на прадмет старыны, але здабываць імі штодзень ваду з глыбокага калодзежа — гэта ўжо не вялікая прыемнасць. Асабліва ў гаспадарках, якія гадуюць многа быдла ці свіней, цяганне вады рукамі з'яўляецца надта цяжкай працай і вялікай стратай часу. Як паказваюць статыстычныя даныя, на Беласточчыне знаходзіцца 80 тысяч гаспадарак, з іх 2 600 маюць свае ўласныя водаправоды, т.зв. гідрафорні, 6 100 карыстаюцца публічнымі водаправодамі, а звыш 71 тысяча саматуж чэрпае ваду са звычайных калодзежаў ці нават ручаёў і рэчак. З гэтага відаць, што ў дзевяці на дзесяць гаспадарак размераныя паклоны жораваў ды скрыпучая песня калаўротаў — іх адметная рыса.

— Што робіцца на Беласточчыне для таго, каб сяляне, адкруціўшы кран, мелі ўдосталь вады для патрэб сваёй гаспадаркі?

— Рэгулярна з году ў год будуюцца ў нашай вёсцы новыя водаправоды, — заўважае намеснік дырэктара Ваяводскага ўпраўлення сельскагаспадарчых інвестыцый **Чэслаў Вайцюля.** — Цяпер на Беласточчыне ёсць 52 вясковыя публічныя водаправоды з сеццю провадаў даўжынёю ў 161 кіламетр, карыстаецца імі 61 вёска. Доўгі час паўставалі ў нас водаправоды маленькія, у асноўным абслугоўваючыя толькі адну вёску. Былі яны вельмі неэканомныя. Цяпер мы імкнемся будаваць водаправоды з шырокай сеткай, ахопліваючай сваім абсягам па некалькі вёсак. Возьмем некалькі прыкладаў. Вёскі Сухавольцы, Сакі і Залешаны ў Кляшчэлеўскай гміне неўзабаве атрымаюць водапровод, пабудова якога будзе каштаваць 7 мільёнаў 700 тысяч злотых. Будзе ім карыстацца каля 140 гаспадарак. У мясцовасцях Орля, Кашалі і Міклашы распачатая ўжо будова павінна быць закончана ў 1979 г. Яе кошт ацэньваецца на 19 мільёнаў злотых, і карыстацца гэтым водаправодам будзе каля 500

Працяг на стар. 4

## НАСТАЎНІЦА, МАЦІ, ДЗЕЯЧ



Пытаеце, як мне працуецца? Што ж, кручуся я тут, бы ў прыску, бо хоць дзетак у школе ўсяго дваццаць, але класы злучаныя, а на дадатак у адным класе абавязваюць старыя праграмы, у другім жа — новыя, напрыклад, па матэматыцы ў чацвёртым класе старая, а ў трэцім новая. Асабліва на першых парах, бывала, вядзеш урок і ўвесь час лекаціш, каб дзе чаго не наблытаць. Трэба і дома загадзя не толькі кожны ўрок прадумаць і падрыхтаваць, але нават кожную яго мінуту ці нават сказ! Ну і вядома, правесці ў злучаных класах заняткі — гэта вам не шакаладку з'есці: іншы раз аж язык у роце высахне. Але ўсё ж настаўніцкую працу я вельмі люблю...

Урокі ў пачатковай чатырохкласнай школцы ў Скупаве, што каля Нараўкі, у той дзень, калі я туды завітаў, былі ўжо даўным-даўно закончаны. Аднак яе кіраўнік **Марыя Навіцкая** вось колькі ўжо гадзін аніяк не магла адарвацца ад школьных заняткаў. Застаў я яе ў класе за настаўніцкім сталом: выпаўняла яна сваім акуратненькім жаночым почыркам класны журнал ды капалася сярод падручнікаў, канспектаў, навучальных дапаможнікаў, відаць, рыхтавалася да заўтрашніх заняткаў.

Слова за словам, і мне стала вядома, што паходзіць М. Навіцкая з Горнага ў Гайнаўцы з сялянскай сям'і. Спачатку вучылася яна ў Гайнаўскім беларускім ліцэі, а потым у беларускім класе Бельскага педагагічнага ліцэя. Пасля яго заканчэння адразу пайшла працаваць у школу ў Семяноўцы, дзе і правучыла 10 год. Потым разам з мужам, таксама настаўнікам, пераехала яна на работу ў Скупава і вось ужо шаснаццаты год як яна тут працуе. За час настаўнічання закончыла завочна аддзяленне рускай філалогіі Настаўніцкай студыі ў Беластоку, пабывала ў 1969 і 1976 гадах на курсах настаўнікаў беларускай мовы ў Мінску, прымала таксама ўдзел у месячным курсе па павышэнню кваліфікацый для настаўнікаў рускай мовы, што праводзіць цяпер Ленінградскі педагагічны інстытут імя А. І. Герцэна.

— Настаўніцкая праца — гэта мая мара з самых дзіцячых год, — прызнаецца М. Навіцкая. — Калі я хадзіла яшчэ ў першы-другі клас пачатковай школы, вучыла мяне настаўніца, якую я вельмі любіла, паважала, хацела быць падобнай на яе. Яна была маім жыццёвым ідэалам. Але ў той час я не магла і спадзявацца, што змагу стаць настаўніцай. Сям'я ў нас была вялікая — васьмёра дзяцей, жылі мы беднавата, не было за што вучыцца. Потым, у часе акупацыі, як толькі змаглі, памагалі мы партызанам. Штодзень паграджала смяротная небяспека. Мой старэйшы брат быў вельмі цяжка паранены нямецкімі жандарамі і астаўся на ўсё жыццё інвалідам. Але настала народная ўлада, карэнным чынам змянілася жыццё, і я змагла здзейсніць сваю мару: стала настаўні-

(Працяг на стар. 4)



Па роднай зямлі. Васількова. Фота Я. Цялушэцкага.

## ДЛЯ ВАС МУЗЫКАНТЫ!

Любілі і любяць у нас на Беласточчыне музыку. Ні вяселле, ні хрысціны, а тым болей ніводная маладзёжная вечарынка не адбываюцца без аркестра або хоць бы аднаго музыканта. І якіх толькі мелодый вы не пачуеце ў іх выкананні: самыя новыя і модныя бампы ды кункфы пераплятаюцца з даўнімі вальсамі і танга, час ад часу выплываюць полькі і кадрылі, а нават крыжачкі ды круцёлкі. Нямала сярод нас і такіх музыкантаў, што на розных гулянках яны іграць не надта ахвочыя, затое якія цудоўныя мелодыі дабываюць яны з розных інструментаў у вольны ад працы час у цішы сваёй хаты! Музыкальны ў нас народ...

**Для ўсіх гэтых самародных талентаў упершыню арганізуецца спецыяльны агляд аркестраў і музыкантаў. Яго право-**дзяць Галоўнае праўленне БГКТ і рэдакцыя „Нівы“ супольна з беластоцкім аддзелам Польскага музычнага таварыства, аддзелам культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення, Ваяводскім домам культуры, усімі гарадскімі і гмінным цэнтрамі культуры Беласточчыны.

Перад аглядам стаяць заданні: разбудзіць зацікаўленне грамадства да народных музычных форм, знайсці і захаваць ад забыцця як мага болей беларускіх народных мелодый, папулярызаваць самых таленавітых музыкантаў і аркестры, пашыраць і павышаць музыкальную культуру ў грамадстве.

**У аглядзе могуць прымаць удзел аркестры і індывідуальныя музыканты, не маладзейшыя 14 год.**

Кожны музыкант або аркестр абавязаны выступіць з дзвюма мелодыямі, у тым сама меней з адной такой, якую даўней гралі ў той ваколіцы. Час грання не можа быць даўжэйшы 6-8 мінут.

Арганізатары асабліва заахвочваюць усіх удзельнікаў да выступленняў на аглядзе з ігрой на народных беларускіх інструментах: басэтлях, цымбалах, дудах, жалейках, пастуховых трубах, скрыпках, розных гармоніках і іншых

Агляд будзе праводзіцца на дзвюх ступенях: раённыя элімінацыі адбудуцца ў месяцы студзені 1978 г., фінальныя элімінацыі — у месяцы лютым 1978 г.

**Ахвотныя да ўдзелу ў аглядзе музыканты і аркестры павінны, не адкладваючы надалей справы, заявіць аб гэтым інструктарам або кіраўнікам гмінных цэнтраў культуры або дамоў культуры, а беластаччане — працаўнікам Галоўнага праўлення БГКТ, вул. Варшаўская 11, тэлефоны: 311-18 і 317-18. І ўжо рыхтавацца да агляду!**

Для правядзення раённых і фінальнага аглядаў арганізатары і суарганізатары склічуць спецыяльныя камісіі. Камісіі будуць ацэньваць удзельнікаў аглядаў, беручы пад увагу рэпертуар мелодый, іх інтэрпрэтацыю і майстэрства выканання.

Кошты падарожжа звернуць удзельнікам усіх аглядаў іх арганізатары.

**Пераможцаў чакаюць каштоўныя ўзнагароды!**

Просім усіх — членаў БГКТ і чытачоў „Нівы“ — паведаміць аб аглядзе музыкантаў са сваёй ваколіцы і заахвоціць да ўдзелу ў ім.

**Няхай паплывуць многія мелодыі сённяшнія і колішнія, няхай ускалыхнуць і пацешаць нашыя сэрцы!**



З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ.
ШКОДНІЦКАЯ МАГІЯ.

# Недапушчэнне да заснавання сям'і і прадказванне сямейнага няшчасця

Магія ірознае забабоннае вераванне, звязанае з недапушчэннем да заснавання сям'і і прадказванне сямейнага няшчасця з'яўляецца ў пэўным сэнсе адваротнасцю да магіі, што адносіцца да склейвання сям'і. На вёсцы спалучэннем маладой пары ў сям'ю займаўся сват. Адбывалася гэта ў форме рынчнага таргавання, аб паспяховасці якога вырашалі перад усім пасаг і працавітасць дзяўчыны. Яе прыгажосць і знешні выгляд сталі на далёкім канцы. Найважнейшае, каб была яна здаровая, дужая і каб магла добра працаваць. Часта здаралася, што маладая пара амаль да самага вяселля ўвогуле не была знаёма, бо аб усім вырашалі сват і бацькі. У жаніцьбе і выдаванні замуж кіраваліся толькі і выключна матэрыяльнай карысцю. І часта пры гэтым знішчалі вялікія пачуцці, так як хлопец мог кахаць зусім іншую дзяўчыну, а дзяўчына іншага хлопца. Калі гэтыя пачуцці былі настолькі моцныя, што маладыя людзі ішлі супраць волі бацькоў, тады тыя западазравалі, што іхняе дзіця апутанае чмутарскай сілай, якую стараліся зняць пры дапамозе спецыяльных магічных дзеянняў. Вось адзін са спосабаў, запісаных у Нараўскай гміне. Трэба было прышільнаваць, калі будуць яны ісці разам і ў той час перакінуць цераз іх памёт ад чорнай свінні. Згодна з перакананнем пачнуцца між імі непаразуменні, перараджаючыеся ў сварку, і больш яны спатыкацца ўжо не будуць. Добра, калі гэта мог зрабіць чалавек пабочны. Цяжэй, калі мусіў гэта выконваць хтосьці з пары. А былі і такія спосабы магічнага дзеяння. Адно з пары пад моцнай намовай бацькоў, або пад уплывам хвіліннага непаразумення павінна было распранууца дагала і стаўшы ў вакне перагнуўшыся так, каб галава апынулася між нагамі, глянуць на вуліцу, у той час, калі другая асоба будзе па ёй праходзіць.

Не было аднак правілам, што маладая пара амаль да самага вяселля з сабой не бачылася. Бо часта было і так, а ў пазнейшым часе пераважна, што ў сваты разам са сватам ехаў і жаніх. І тут бытавала перакананне, што, увайшоўшы ў хату бацькоў дзяўчыны, пакуль яны не згодзяцца і не папросяць да стала, нельга было пераходзіць за бэляк. У іншым выпадку азначала б гэта абсалютную непаспяховасць.

Калі з недапушчэннем да заснавання сям'і і разбіццём закаханай пары было ў галоўнай ступені звязана магічнае дзеянне, то з прадказваннем сямейнага няшчасця перад усім забабоннае вераванне, якое часткова набірала адцення ў агульнамагічнага дзеяння. Вось хаця б тое, што ў час падрыхтоўкі да выезду да шлюбу перад фурай, на якой сядзелі маладая або малады, клалі бохан хлеба, які трэба было пераехаць. Будучы лёс сям'і найчасцей пазнавалі па знешніх прызнаках. Калі ў дзень шлюбу не было пагоды, дык і жыццё такім будзе. Калі свяціла сонца — жыццё шчаслівае і вясёлае. Калі да шлюбу першым прыязджаў малады, дык значыць ён будзе галавой сям'і, калі маладая — яна. Калі ў час шлюбу маладой загарыцца вэлюм, неўзабаве на іх нованароджаную сям'ю награне няшчасце, а таго, у каго згасне свечка, чакае хуткая смерць. Чыя свечка больш згарэла, той раней памрэ. Не адсутнічала таксама і злaслівае магічнае дзеянне. Трэба было зорка сачыць, каб на фуру, якой едзе маладая або малады, а таксама на дыване, на якім яны стаяць у час шлюбу, нехта не завязаў нейкага вузла. А ўжо пэўным лічылася няшчасце тады, калі ў дзень вяселля ў царкве быў пакойнік.

Як амаль кожнае шкодніцкае магічнае дзеянне, так і гэтае, а можа нават гэтае перш за ўсё, таму, што не было тут ніякай магчымасці забеспячэння ўласнага дабрабыту, выконвалася людзьмі злопажадальнымі, нядобразычлівымі, кіруючымiся часта беспадстаўна злараднасцю. І такім чынам шкодніцкая магія сама праз сябе паказвала на людзей з адмоўным характарам.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**



**Дарожныя партрэты**

## ДЗВЕ СЯБРОЎКІ

*Міраслава Харкевіч (злева) і Алімпія Самоцік — абедзве з вёскі Ляшукі і абедзве сяброўкі. Вучацца ў беластоцкіх тэхнікумах: Алімпія — у гастранамічным, а Мірка — у малочным.*

*Калі аднак прыедуць дамоў і сустрэнуцца з іншымі сяброўкамі, тады вельмі ахвотна спяваюць народныя песні. Дзяўчаты не цураюцца таксама і грамадскай працы. Супольна з гурткамі БГКТ і Саюза сацыялістычнай польскай моладзі ў Ляшуках яны шмат папрацавалі пры пабудове дарогі і ў лесе.*
*(вр)*




## МАНАПОЛЬ

*У том баку, ад нас за рэчку,*
*манаполь калісьці быў.*
*Дзед пашоў мой сеяць грэчку*
*і ў карчме яе прапіў.*

*У карчму хадзіў за рэчку*
*дзед мой з бабаю тагды,*
*а сказаў, што усю грэчку*
*пазбіралі галубы.*

*А мой бацько, сын быў дзедаў,*
*мало лет тагды шчэ меў,*
*ён аб грэчцы ніц не ведаў,*
*з яе кашы ні паеў.*

*За цара да манаполі*
*ішлі нашые дзяды.*
*Па балоці і па полі*
*вадзіў чорт дзядоў тагды.*

*Нашы дзяды мелі многа*
*галадаючых дзяцей,*
*шчыра верылі у бога,*
*а таксама і ў чарцей.*

**Фёдар Хлябіч**
Рыбакі

**У Гарадоцкай гміне**

### НОВАЕ ПРАДШКОЛЛЕ

Як ужо „Ніва“ паведамляла (у 17/1104 нумары ад 24 красавіка 1977 года), у красавіку гэтага года ў Гарадку былі аддадзены ў карыстанне дзіцячыя яслі.

Першага верасня бягучага года гарадоцкія дзеці ва ўзросце ад трох да сямі гадоў упершыню пераступілі парог новага прадшколля, якое знаходзіцца побач дзіцячых ясляў. Прыходзіць іх больш сотні. У сярэдзіне навюсенькае абсталяванне, многа розных цацак, выставак самых удалых дзіцячых малюнкаў, а таксама зробленых імі ўсялякіх прадметаў. Заняткі з дзецьмі вядзе сем выхавацельніц. На месцы ёсць і лячэбная апека. Дырэктар прадшколля Раіса Сідар паклапацілася і пра розныя прылады да гульняў і лавачкі на панадворку. Усе дзеці вельмі ахвотна ходзяць у прадшколле, весела і карысна праводзяць свой час. Бацькі задаволены.

### БУДУЮЦЬ РАМІЗУ

Жыхары Гарадка пару гадоў збіраліся будаваць стражацкую рамізу. Цяпер здзяйсняюць гэты свой намер. Звезлі будаўнічыя матэрыялы. Пабудавалі сцены вышынёю аднаго паверха. Усё грамадскім чынам. Новая раміза расце ў цэнтры пасёлка, над рачулкай Супрасль.

### БУДЗЕ РЭСТАРАН

У пачатку будучага года ў Гарадку будзе аддадзены ў карыстанне ГС-аўскі рэстаран на 150 месц. Будзе ў ім таксама невялічкая кавярня. Неўзабаве будынак рэстарана будзе атынкаваны і распачнецца яго абсталёўванне ў сярэдзіне. Працаваць тут будзе 17 афіцыянтак і афіцыянтаў. Для персаналу створаны асабліва добрыя сацыяльна-бытавыя ўмовы.
**(ця)**




*„Светавід“ і іншыя галовы — разьба па дрэву народнага ўмельца М. Ігнацюка з ваколіц Туросні Касцельнай. Фота М. Гайдука.*

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

Пад канец верасня газеты апавясцілі, што наш урад абмеркаваў гатовы ўжо праект закону аб забеспячэнні сялян пажыццёвымі пенсіямі.

Памятаю, што гэтыя пенсіі ўпершыню паабяцаў нам таварыш Герэк. Пасля адбылася ўсенародная дыскусія. І вось цяпер прыйшла чарга на ўрад. Яшчэ толькі абмеркаваць праект у Сейме і прагаласаваць. Пачакаем, бо добра ведаем, што добрую і трывалую справу трэба рабіць памаленьку, разважліва, з кожнага боку на яе паглядзеўшы. То ж паслухайце, што напісалі ў „Трыбуне Люду“:

*„Гэты вельмі істотны, а для жыхароў вёсак проста гістарычны праект закону з'яўляецца чарговым актам грамадскай справядлівасці, якая выплывае з гуманных асноў сацыялістычнага ладу. Накіраваны ён на вырашэнне асноўных сацыяльных праблем аднаасобніцкіх сялян. Абяспечвае матэрыяльнае ўтрыманне на старыя гады, а таксама і ў выпадку інваліднасці перш за ўсё тым сялянам, якія шляхам пастаяннага павышэння ўзроўню сельскагаспадарчай прадукцыі і прадажам яе дзяржаве, прымаюць актыўны ўдзел у ажыццяўленні праграмы забеспячэння народу харчовымі прадуктамі“.*




Разы тры я перачытваў гэтае паведамленне, бо неяк не ўмяшчаліся ў маёй мужыцкай галаве ўсе гэтыя вучоныя словы аб „сацыяльных праблемах“, „гуманных асновах“ і „грамадскай справядлівасці“. Урэшце я зразумеў, што трэба мне будзіць маю Палашку, якая па старому звычаю задрамала над кудзеляй воўны, бо сын заказаў у яе зімовы свіцер.

У гэты вечар доўга сядзелі мы за сталом. Нават і тэлевізара не ўключалі, а толькі гаварылі і ўспаміналі, успаміналі асабліва тыя, не так ужо і даўнія гады, калі старасці баяліся людзі ў нас горш ад смерці. Вось, для прыкладу, была ў нас суседка, Васіліха, і яе муж Васіль, якога ў вёсцы „амерыканцам“ называлі, бо нейкі час працаваў ён у Амерыцы і прывёз адтуль крыху долараў. Лічыўся ў вёсцы багацеем. У святочныя дні горда насіў гадзіннік на залатым ланцужку, які блішчэў на яго адкормленым жываце. Дажываць да смерці прыйшлося ім пры двух сынах і іх жонках. Асабліва намучылася Васіліха.

— Аж затрасло мною, калі ўспомніла, — кажа мая Палашка. — То ж памятаеш, Максім, як яна мучылася? Жывучая вельмі была, але ёй ногі адабрала і не магла хадзіць. Тады заперлі яе ў камору і рэдка хто да яе заглядаў, бо такі смурод ад яе ішоў, што з ног збівала.

— Пэўна, — гавару я, — калі яна ўсё пад сябе рабіла, а нявесткі, гадаўкі, саромеліся навесці пры ёй парадак...

— А Васіля, значыць „амерыканца“, памятаеш? — гаварыла мая жонка. — Памятаеш, як старэйшы сын таўкачом дабіваў яго, каб ён хутчэй памёр і дарэмна хлеба не еў, бо не мог ужо працаваць і на гаспадарцы не быў прыдатны.

— А гэтага Мікіту пакойнага... — прыпомніла Палашка, — у якога жонка памерла, а дзеці па гарадах параз'язджаліся. Астаўся ён сам, як той бадыль у чыстым полі. Пакуль мог, то і карову яшчэ трымаў і свінку карміў... Зямлі ў яго было вельмі многа, але падаткаў ніякіх ён не плаціў і даўгоў усялякіх накапілася столькі, што ўрэшце перавысілі яны вартасць цэлай гаспадаркі. Хадзіў галодны і абарваны. Так і памер аднойчы ў мароз пякучы... На шчасце, — глыбока ўздыхнуўшы ад гэтага ўспаміну, заявіла мая лепшая палавіна, — нас такое няшчасце сустрэць не можа. Нашы дзеці да гэтага не дапусцяць.

— Пэўна, што такой бяды ад нашых дзяцей спадзявацца мы не можам, — згадзіўся я з ёю. Яны нас не пакінуць. Лепш аднак мець уласныя грошы. Тады і дзеці будуць для нас мілейшыя. Вось за гэта і вялікае дзякуй таварышу Герку, што падумаў пра старых сялян!

**Максім Нурэцкі**

 



**НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ**

*На падмогу дружыне выходзіць са сваёй святыні варатар зубачоўскага „Сокала“ — Вітальд Склуцкі.*
*Фота В. Рудчыка.*

## ТАК БЫВАЕ...

### Не дагадзіў жонцы

Быў ён рыжаваты, касавокі, кульгаваты. Але хацеў мець жонку прыгожую, найпрыгажэйшую. На руках яе насіў бы, усё за яе рабіў бы. Няхай зайздросцілі б іншыя!

І о дзіва, знайшоў Пятрусь такую жонку. Была яна, як намаляваная, як карціна, з рэдкай прыгажосцю. Ад шчасця Пятрусь задыхаўся. І кароў даіў, і свіней карміў, і бульбу скробаў, і бялізну мыў — і ўсё гэта, каб дагадзіць жонцы.

Аднойчы прабудзіўся Пятрусь на світанні, паціхеньку выйшаў з хаты, запрог каня і паехаў на поле. Пакуль сонца стала ўздоўж поль, Пятрусь гоны пожні ўзараў. Пасля паехаў дамоў пакарміць каня і паціхеньку зрабіў снеданне. Паставіўшы ўсё на стол, пайшоў будзіць сваю Рэнату і кажа ёй з чуласцю: „Уставай, золатца, снеданне ўжо на стале, а я ўжо гоны пожні ўзараў“.

„Каб ты носам узараў, — з нянавісцю прагаварыла расчырванелая жонка. — У такую пару ўсе людзі кахаюцца, а ты, нягоднік, у зямлі капаешся!“

Але прайшоў нейкі час, і Рэната падабрэла. Негарда адносілася да мужа. „Мусіць, прывыкла. Мусіць, пераканалася, які я ёй адданы“, — тлумачыў сабе муж. А калі нарадзіўся сынок, Пятрусь лічыў, што яго сямейнае жыццё злажылася так, як гэтага ён жадаў. Нічога, што жонка мала да чаго датыкалася, была толькі паняй хаты, але затое на яе прыемна самаму паглядзець і людзям паказаць.

Пятрусь быў працавіты. Ад работы свету не бачыў. Рэната, бачачы яго паслухмянасць і ўгодніцтва, пасылала мужа часта, каб ехаў ён памагчы на гаспадарцы сваёй сястры-ўдаве ды яе матцы, якая ўжо стараватая і якую пакінуў муж, Рэнін бацька.

Але калі Рэна нарадзіла другое дзіця, жанчына з суседняй калоніі пашчырнічала перад Петрусём. „Пятрусь, чаму ты такі дурны, чаму ты чужых дзяцей гадуеш? Яны падобныя нават на Ігната!“

„Ты хочаш напусціць нас адно на другое, цябе зайздрасць бярэ, што мы згодна жывем, а ты вечна грызешся са сваім мужам!“ Пятрусь раскрычаўся і не хацеў слухаць суседку. Перакананы быў, што гэта беспадстаўны закід у адрас яго жонкі, аднак вестка аб здрадзе жонкі яго неяк насцярожыла, заставіла ўважна да ўсяго прыглядацца. І да дзяцей пачаў ён прыглядацца, да іх рыс, іх выгляду. Стаў ён заўважаць, што жонка, калі выйдзе на панадворак, позірк яе ляціць у кірунку суседняй калоніі. Вырашыў правесці генеральны кантроль сітуацыі. Пачаў да яго рыхтавацца. Пачаў гаварыць Рэнаце, што неабходна паехаць яму ў Беласток па вокны да летняй кухні. А хто ехаў у Беласток фурманкаю выязджаў з іх мясцовасці вечарам. Вечарам таксама паехаў Пятрусь. Але не ў Беласток. З дарогі павярнуў ён у лясок, распрог каня і, даўшы яму торбу, а было ўжо цёмна, паціхеньку дабрыў да сваёй хаты праз поле і схаваўся, як разведчык. Чуе, што хтосьці ідзе, глядзіць — і вачам сваім не верыць. Ідзе да яго хаты гэты ж самы Ігнат, аб якім гаварыла суседка. Застукаў 5 разоў у вакно, у якім хутка адкрылася фіранка, і Пятрусь убачыў сваю жонку. Рэната выйшла, адамкнула дзверы, а пасля іх замкнула. Страсянула, закалаціла Петруся. Рвануўся ён на панадворак, схапіў там кол і пачаў валіць ім у дзверы, і зараз жа пабег да акна спальні, з якога ў сарочцы вылазіў Ігнат. Паспеў канцом кала ўдарыць яго. Азвярэўшы, увайшоў у хату і налупіў жонку. Чакаў ад яе, што будзе прасіць прабачэння. Калі ён пайшоў у лясок па каня, жонка ўцякла з хаты і ўжо больш да Петруся не прыйшла.

**Міхась Сваяк**

---

было вялікае свята рабочых трох вялікіх сакольскіх прадпрыемстваў: Спомаш-у, Стальбуд-у і ПОМ-у. А якая праграма! Побач з паказам дасягненняў усіх трох прадпрыемстваў сакальчане мелі магчымасць паглядзець і паслухаць дзесяткі (гэта не перабольшанне) самадзейных калектываў з усяе Беласточчыны ад падворкавага аркестра з Васількова да „Курпяў зялёных“, праслухаць канцэрт школьных духавых аркестраў з Беластока і Лапаў, папераджываць за сваіх любімцаў у спартыўных спаборніцтвах.

Не забываюць працаўнікі САК-у і пра вёску. Пяць сакольскіх вёсак (Каменка Старая, Малявічы Ніжнія, Разадранка, Страж і Янаўшчына) прыступілі да конкурсу самых актыўных вясковых асяроддзяў. Напрыклад, у Каменцы Старой мясцовая моладзь і дарослыя навялі парадак вакол вясковага клуба, змянілі ранейшае абсталяванне на новае, паклапаціліся пра ўтульнасць у ім. Правялі два турніры, у тым з адным, пад назвай „Да вас у госці“, наведалі сакольскі Спомаш. Цяпер Спомаш выбіраецца ў госці ў Каменку Старую на Дзень печанай бульбы. Не спяць і іншыя сакольскія вёскі.

Так, культурная дзейнасць на Сакольшчыне не стала на рамонт, хоць будынак САК-у рамантуецца.

**М. Гайдук**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ВЯСНЯНКА




*Гыля, гыля, гусі, на воду —*
*гаворат людзі на нашу ўроду,*
*а наша ўрода, як быстра вода.*
*Ніхай гаворат — Бог ім заплаціт,*
*а наша ўрода венка ні страціт.*

Ад Анны Трахімчук, 1891 года нараджэння, вёска Лука гм. Нараўка, запісаў 17 жніўня 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.







Янка Леанчук і Міхась Шаховіч узнялі надта важную тэму. Пішуць аб шкодніцкай магіі. Дзякуй ім за тое, што захацелі заняцца справай, якая мучыць народ ад вякоў. Я чараўніц асабліва ненавіжу, бо сам быў у кіпцюрах магіі і браў у тым актыўны ўдзел спачатку як „лекар“, а пасля... Але пачну спачатку.

„Лекарам“ я быў па той прычыне, што меў няшчасце нарадзіцца першым дзіцём у сям'і. У маіх бацькоў — апрача мяне, бо я ад першай маці — былі надта прыгожыя дзеці і, пакуль яны не павырасталі, нікому нельга было на іх паглядзець. А калі, не дай божа, хто падышоў да калыскі і пабачыў, а пасля пахваліў, то маці без ніякае цэрэгеліі совала той асобе дулю пад нос і гаварыла: „Суоль тобіе в очы, коб воны тобіе повылазылі“. Можа і па той прычыне рэдка хто да нас прыходзіў, і маці, убачыўшы яго на панадворку, на мяне крычала: „Сычу, нэ бачыш, шчо хтось ідэ?“. Або: „Сычу, нэ бачыш, шчо ідэ тая віедьма?“ Я ўжо ведаў у чым справа, бо не адзін раз быў біты, і хутчэй адварочваў на хату галавой, каб твару дзіцяці не было відаць. А калі ўжо нехта апынуўся ў хаце неспадзявана і маці не магла крыкнуць, то толькі бліскала вачыма ў мой бок і з зацятым у зубах языком пагражала, што дастану, я зноў хаваў твар падапечнага.

Не заўсёды, аднак, так добра ўдавалася і тады пасля адыходу госця мяне лупцавала прафілактычна. А калі ўжо дзіця пачынала плакаць, то абавязкова гарбавала мне скуру і заставіляла лячыць. Ну, то я і лячыў. Плачучы, нахіляўся над ягонай калыскай і дмухаў на малога, пачынаючы ад галавы да ног, і пляваў ды гаварыў: „Згінь, маро, прапады“. Пасля ад ног да галавы і так тры разы дмухаў ды пляваў, праганяючы сатану. А калі і гэта не памагала, то цёр твар малога сподам сваёй кашулі, якая была жорсткая, бо з мяшковае тканіны. Часамі, ды нярэдка, дзіця плакала даўжэйшы час, бо хацела есці або мела мокры сеннік, у якім кумякамі біліся чарвякі. Гэта ж не аставалася без уплыву на настрой малога, якому проста свярбела цела ад шавяліўшыхся чарвякоў, і яно плакала. Тады ўжо мае лекі не памагалі, маці бегла па Дамінку. Тая, прыйшоўшы, нешта шаптала, выцірала твар сваёй сарочкай... А дзіця далей плакала, пакуль не выцягнула яго з калыскі і не ахалучыла з гною, ды не накарміла.

Найгоршаю халераю з'яўляўся „галагуд“ — значыць певень. Той сучы сын (гаворачы словамі маці) заўсёды любіў ускочыць на прызбу і знянацку заглянуць у акно. Гэта пеўнева фізіяномія даводзіла маці да такой панікі, што гатова была выбіць акно, але ў час апамятвалася, што трэба будзе плаціць за шыбу або анучамі затыкаць. Аставалася на тым, што дзіцё „ўрочылось“, я з бічом ганяў пеўня на панадворку, а маці хутчэй перла па шаптуху, або сваім спосабам лячыў я.

Так было з коньмі, каровамі і ўсякай жывёлай. Сярод шаптух быў я, а пасля даведаўся, што маці ў царкве круціла свечкі на мяне, але аказалася, што нічога не выкруціла, бадай таму, што не была ў сваіх бацькоў першым дзіцём.

Такая адна з другой брудная шаптуха думае, што як прашэпча нейкую недавучаную малітву, то ўжо бог яе паслухае, ды ўкарае сірату, пакруціўшы ёй рэўматызмам ногі і рукі. Пабачце, колькі тут ілжывасці і хамства. Ідзе прасіць бога, каб ён зрабіў чалавека калекаю і той не мог знайсці сабе хлеба.

Адной прыгожай восенню паехаў я з калегай на вёску купіць парсюка. Там нам яго закалолі, асмалілі і разабралі. У час смалення я ўбачыў, што ў зубах у парсюка тырчыць кій. На маё пытанне, што гэта значыць, гаспадары сказалі, што кій у зубах узмацняе кішкі, а, вядома, мацнейшыя кішкі, дык лепш рабіць каўбасы. Я не ведаю, як гэта растлумачыць і з імі згадзіўся. Але пасля бачу, што ў зубах адрэзанай ад парсюка галавы тырчыць адрэзанае з той жа галавы вуха. Тут я зразумеў, што маю справу з чарамі. Прывёз усё гэта дамоў. Намучыўся, як асёл, бо ўсяго было каля 70 кілаграмаў. Цешыліся мы вельмі, бо ўсе любім каўбасу з гарчыцаю і часнаком, але мала мы цешыліся, бо неўзабаве ў нас гэта ўсё ўкралі.

Ну і што я цяпер маю рабіць: верыць у чары, ці не? **„Шарлатан“**



*Кіраўнік гміннай бібліятэкі ў Дубічах Царкоўных Оля Ігнацюк разам са сваімі актывістамі-чытачамі рыхтуе дэкарацыю новага памяшкання бібліятэкі.*
*Фота М. Гайдука.*



 

# ELTON JOHN I RINGO STARR



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвалі:**
Э. Маркоўская, Д. Мразоўская, Б. Врублеўская, Б. Бароўская, М. Заянчкоўская, А. Банькоўскі з Бельска, Г. Гаінская, Т. Капчэская са Страблі.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Сніцца, што едзе па рэйках вагон. У ім мае знаёмыя. Яны ўзялі мае туфлі. Я бягу і ніяк не магу ўскочыць у вагон, здаецца, ужо ўскочу і месца там мне было. Але не ўдалося.

Валя

Астроне, а я мусіць памру хутка, бо прыснілася, што прыйшла да мяне ў хату мая цёшча з маёй мамай (абедзве не жывуць). Цёшча стала першая, а мама ззаду за ёй. І цёшча кажа: „Ты яшчэ крыху пажывеш!“, а мама дадае „Хопіць ужо!“ Тут я і прачнулася.

Марыся

**Валя!** Вам пагражае нейкая небяспека, бо бачылі вы вагон, які імчаўся па рэйках. Ага, і нічога, бадай, не выйдзе з планаванага падарожжа, бо знаёмыя забралі туфлі, якія, на жаль, уцяклі ад вас.

**Марыся!** Сто год жыцця — мур-бетон! Сустрэцца з пакойніцамі — адна радасць, бо і справа гэта нештодзённая, і людзі ўсё ж блізкія — маці і цёшча. Зрэшты, бачыць ува сне пакойніка, як пісаў я ўжо не раз, азначае здароўе і доўтавечча, а пра тое, што яны гаварылі, не думай. Лепш скажы: „Цьфу, згінь, мара, прападзі!“

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка, пачну ад таго, што я ўжо замужняя. Сама я з горада, а з мужам пазнаёмілася, будучы на вёсцы ў сваякоў. Хутка пажаніліся. Муж мой мае сельскагаспадарчую адукацыю. Бацька перапісаў на яго гаспадарку, і ён працуе разам з бацькамі. А я працавала ў горадзе і спачатку жыла ў сваіх бацькоў. Муж не мог да мяне прыйсці, бо ў яго ж гаспадарка. І пастанавілі мы, што паколькі вёска недалёка ад горада, то я буду жыць у цесцяў і да працы даязджаць. Так і было. Толькі што я працую на фабрыцы і праца мая на змены. І часамі працу канчала я ноччу і не было магчымасці вярнуцца на вёску. Тады я начавала ў сваіх бацькоў. Муж згаджаўся з гэтым, але цёшча была супраць. І пачаліся непаразуменні. Дайшло да таго, што я пакінула працу на фабрыцы і пачала працаваць разам з усімі на гаспадарцы. Не прыходзілася мне гэта лёгка, бо ніколі я на зямлі не працавала. А цёшча і выкарыстоўвала гэта, усё дакарала, што не так, што нядобра. Як я не старалася, дагадзіць ніяк не магла. Урэшце яна прагнала мяне з дому. Я вярнулася да бацькоў. Нідзе не працую. Магла б узяць развод, але я кахаю свайго мужа, ён добры да мяне і да таго я чакаю дзіцяці. Муж прыязджае да мяне час ад часу, але і то, каб яна не ведала. Мае бацькі кажуць, каб муж кідаў тую гаспадарку і перайшоў жыць у горад. Ён мае магчымасці знайсці працу ў горадзе, а жылі б мы ў маіх бацькоў, яны маюць кватэру вялікую. Але як жа будзе з гаспадаркай? Мне нават спадабалася праца на гаспадарцы. Што рабіць?

Ірэна

Ірэна! Бадай найлепш будзе, калі на нейкі час вы пяройдзеце ў горад, паколькі цяжка з цёшчай уладзіць справы. А ў вольны час будзеце памагаць бацькам на гаспадарцы. А калі вы маеце абое працаваць на гаспадарцы, а з часам будзе бацькам цяжэй працаваць, дык вернецеся на гаспадарку.

**Сэрцайка**





Як цябе бачаць, так цябе пішуць

## МОДНЫЯ СУМКІ

Модныя сумкі — спартыўныя, такія, якія кожная жанчына можа назваць „сваёй“, нягледзячы на тое, ці будзе гэта сумка на плячо, ці з карацейшымі ручкамі.

Модныя сумкі — са скуры, або імітуючыя скуру. Усе яны ў цёплых, спакойных тонах.

Такая сумка — неадлучны спадарожнік жанчыны на кожны дзень. Мае яна шмат кішэняў, даволі вялікая, так, што можа ў ёй змясціцца немалая колькасць рэчаў, без якіх цяжка выйсці з дому.

**Сяброўка**






I

У дрэнна асветленым шынку „Цудоўны брыг“ было вельмі шумна. Рэкруты святкавалі першы водпуск на бераг. Навабранцы спрабавалі выглядаць бывалымі марскімі ваўкамі, выхваляліся жаргонам, перакідваліся моцнымі слоўцамі і без канца пілі слабое ваеннае піва. Убаку за столікам сядзелі старшына і старшы матрос. Хлопцы раз-пораз пазіралі на іх. Яны яўна не прэч былі б завязаць з ветэранамі дружбу. Нарэшце, цыбаты з блакітнымі вачыма юнак адважыўся. Ён вырас перад столікам з двума куфлямі ў руцэ, шчоўкнуў абцасамі:

— Семнаццаць, гер обермат.

— Добраахвотнік?

— Так точна, гер обермат.

— Куды б ты хацеў папасці?

— На падводную лодку, гер обермат.

— На падводную лодку? — Старшына прыўзняў бровы і пераглянуўся з прыяцелем. — Ці не ранавата, хлапчук?

Праз дзесяць мінут старшына Ханс Шроткамп і яго сябар старшы матрос Кудзель Блок выйшлі на вуліцу.

Імжэла. Цьмяна паблісківаў брук. Шроткамп засунуў рукі ў кішэні.

— Бачыў жаўтаротікаў? Семнаццаці няма! Салагі.

— Апошні прызыў. Трыумфальна коцімся на памыйку. — Кудзель са злосцю плюнуў.

— І яшчэ на падлодку, га? Кудзель, сябар, уяві іх у нашай пасудзіне! Як захныкалі б, калі што...

Каму, як не ім, Шроткампу і Блоку, добра вядома, што значыць быць падводнікамі. Яны ўжо зведалі розныя прыемнасці і ад глыбінных бомб, якія рвуцца над галавой, і ад грукату заклёпак, што трашчаць.

З чатырнаццаці і да самай вайны Шроткамп плаваў на гандлёвых суднах. Ад Ганконга да Сан-Францыска наўрад ці знойдзецца порт, у якім ён не бываў. Вядома, уваходзіў і ў „інтэрнацыяналку“ — міжнародны саюз маракоў. Ужо тады ён быў сыты морам па горла, а, аказваецца, усё толькі пачыналася... На падлодку яго занесла выпадкова. Трапіў на вочы земляку, сыну пастара. Той служыў вахценным на падлодцы і не супакоіўся, пакуль не працягнуў суседа ў гэту плывучую труну.

Адна ўцеха — Кудзель Блок. Гэты — свой хлопец. У любым пераплёце не разгубіцца і язык трымаць за зубамі ўмее. Аб гэтай чортавай вайне яны думалі аднолькава. Таму, відаць, і пасябравалі, нягледзячы на розніцу ў званні і на тое, што Кудзель гадоў на пяць маладзейшы.

Яны павярнулі за вугал. Крайні дом даўно ператвораны у кучу шчэбеню. Ад двух іншых засталіся толькі фасады. Ханс, спатыкнуўшыся аб штосьці бліскучае, нагнуўся і падняў эмаліраваную авальную таблічку: „Немец, тваё прывітанне — Хайль Гітлер!“

— Хутка ўсім будзе хайль! — сказаў Кудзель.

Ханс Шроткамп кінуў таблічку ў руіны.

Гэты псіх хутка ўсіх пусціць у расход. Напэўна, праз паўгода ён першакласнікаў пашле ў акопы.

— Думаеш, гэты цырк яшчэ паўгода працягнецца?

— Чорт яго ведае! — Шроткамп паціснуў плячыма.

Некаторы час ішлі моўчкі. Потым Кудзель сказаў:

— Ведаеш, я часта думаю, а ці няма ў Адольфа чаго-небудзь пра запас?

— Сакрэтная зброя, ці што?

— А хоць бы яна! Га?

— Іншы раз ты такі ж дурань, як усе.

Даволі нізка над імі праляцеў самалёт. Ханс і Кудзель не звярнулі на яго ўвагі. Калі б яны толькі ведалі...

2

„Фізель шторх“ прызямліўся ля гарадской ускраіны. Следам за пілотам па трапу спусціўся высокі хударлявы палкоўнік з сівымі кусцістымі бровамі і вялікім арліным носам. Палкоўнік загадаў правесці яго да каменданта і паклапаціцца аб пілоту. Малады обер-лейтэнант ускінуў руку: „Слухаюся, гер оберст. Прашу за мной“.

Камендант аэрадрома, кругленькі лысы маёр, праявіў куды менш павагі. Убачыўшы ў дзвярах незнаёмага палкоўніка, ён абыякава ўстаў, адсунуў цыгару і вяла падняў руку для прывітання. Палкоўнік адказаў такім жа жэстам і запатрабаваў машыну. Яму тэрмінова трэба быць у горадзе.

Маёр усміхнуўся:

— Спачатку ваша пасведчанне, гер оберст.

Палкоўнік моўчкі дастаў з нагруднай кішэні паперу. Маёр прабег яе вачыма і, раптам выцягнуўшыся, замармытаў:

— Прабачце, адну хвіліначку...

Роўна праз чатыры мінуты палкоўнік, адкінуўшыся на мяккім сядзенні, ужо нёсся да адмірала, камандуючага марской базай.

*(Працяг будзе)*

# КАМІСІЯ

— Да нас едзе камісія! — паведаміў дырэктар школы на педагагічным савеце. — Вы разумееце, што гэта значыць?

Усе разумелі.

— Прашу мабілізавацца, — загадаў дырэктар.

Наступны дзень у школе ўсё падмяталася, праціралася, ператрушвалася. Нанава пераглянулі, дапоўнілі і перапісалі агульнашкольны план. А пасля таго і ўсе іншыя планы: каляндарныя, гадавыя, квартальныя, тыднёвыя, штодзённыя, тэматычныя і г.д. Дырэктар праявіў уласную ініцыятыву: каб не дапусціць блытаніны з вялікай колькасцю планаў, прапанаваў дадаткова скласці яшчэ адзін — як правільна выкарыстаць усю разнабаковасць планаў.

Дні складаліся ў тыдні, тыдні — у месяцы, а камісія не ехала. Настаўнікі хадзілі як з крыжа знятыя. Прыкмецішы набліжэнне да школы незнаёмай асобы, аб'яўлялі гатоўнасць нумар адзін.

Дырэктар дрэнна спаў начамі. Ледзь ён сплюшчваў вочы, як перад ім паўставала камісія ў поўным сваім складзе.

— У вас з дваццаці патрэбных планаў ёсць толькі дзесяць! — гаварыў адзін інспектар.

— Ды і то толькі за апошнія тры гады, а трэба за пяць! — дадаваў другі.

— Вы не выконваеце загадаў куратарыі. Было прапанавана планаваць у тоўстых сшытках, а вы плануеце ў тоненькіх! — не даваў апамятацца трэці.

Урэшце дырэктар не вытрымаў. Кінуў усё, падаўся ў куратарыю, грукнуў кулаком па стале і заявіў:

— Давайце неадкладна камісію!

Спроба супакоіць яго закончылася безвынікова. Пасля кароткай нарады ў кабінеце куратара было аб'яўлена:

— Ніякай камісіі ў вас не будзе!

Дырэктар не верыў. Ён паехаў дахаты толькі тады, калі яму палажылі гэтае паведамленне на адпаведнай паперы з круглаю пячаткай і подпісам.

Вярнуўшыся ў школу, дырэктар загадаў зняць з гэтай даведкі копію і павесіць на відным месцы ў настаўніцкім у рамачцы, пад шклом. Арыгінал захоўваўся ў сейфе.

Толькі пасля такога захаду жыццё школы пачало пакрысе ўваходзіць у нармальную каляіну.

**П. Яланскі**



— *Ты, мілая, кашулю мяняеш? У цябе праграма мінулага тыдня...*

# НІЎКА



### РАДАСЦЬ

— Муж, хутка ў нашай маленькай хаце паявіцца трэцяя душа.

— Любая мая, няўжо?

— Так! Мая мама разводзіцца з бацькам і пярэйдзе да нас жыць.

### БАРАДАТЫ ДЗІЦЁНАК

Мы сыночка прывучылі
Змалку цацак мець багата,
Кожны дзень яму куплялі
Лялькі, мячыкі, гарматы...

— Сын падрос, — мне
жонка кажа:
— Ну які, які ж ты бацька!..
Колькі будзе радасць наша
Забаўляцца дробнай цацкай!

„Волгу" я куплю для сына,
Хоць, скажу, і ранавата.
Перанёс ён у машыну
Лялькі, мячыкі, гарматы...

Сын усё, што трэба, мае
У машыне-магазіне.
Што ні скажа — ўсё
купляем
Барадаценькаму сыну.

**Гусейн Надзір,**
Азербайджан

### ПРА БУЙВАЛАЎ

Міколка глядзіць тэлевізар. Дыктар расказвае, што ў запаведніку значна ўзрасло пагалоўе буйвалаў.

Міколка бяжыць на кухню і дзеліцца з маці навінай:

— Дзядзька па тэлевізару сказаў, што ў буйвалаў вырасла многа галоў!..

— *Мае хобі — кляксы!*



...Нічога не чытаў, апрача маралі.

### ЭЛАЧКА

Сям'я ўчора ўвечары была ў гасцях і раніцай за сняданнем абмяркоўвае ўсіх бачаных там. Маленькая Элачка гуляе ў кутку і раптам пытае:

— Мама, а апрача вас, добрых людзей больш няма?

### ВЕЛЬМІ ЦІКАВАЯ

— Апошняя паэма Расціслава Салавейчыка вельмі цікавая, — гаворыць першы.

— А што ў ёй цікавага? — пытаецца другі.

— Ты яе чытаў?

— Не, а ты?

— Я таксама, але людзі гавораць.




### ЗА ШТО?

— За што выгнаў Бог Адама і Еву з раю? — пытае ў школе настаўнік вучня.

— За тое, — кажа вучань, — што з'елі зялёнае яблыка з дрэва, а зялёнага яблыка нельга есці, бо жывот балець будзе.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Гэта вы, пане Фіялка, навучылі вашага папугая так лаяцца? — здзіўляюцца госці.

— Не, — апраўдваецца гаспадар, — справа ў тым, што я толькі хацеў параіць яму, якія словы нельга ўжываць...

*

Пані Кавачова пасварылася з мужам і за тры дні не сказала яму ні слова.

— Ну што, дастаткова я цябе пакарала? — пытае яна мужа.

— Ужо даўно мне не было так спакойна, — рассмяяўся пан Ковач.

*

— Мой нарачоны, студэнт палітэхнічнага інстытута, падарыў мне на дзень нараджэння кнігу Эйнштэйна „Тэорыя адноснасці".

— І ты яе прачытала?

— Не. Чакаю, калі яе экранізуюць.

### БАЦЬКА І СЫН

Бацька да сына:

— Вазьмі гэту пляшку, пабегай па суседзях і прынясі гарэлкі.

— Дык вы ж хоць сотню дайце.

— За сотню кожны прынясе. Ты прынясі без сотні.

Мінула некалькі мінут, і на стале з'явілася пляшка.

— Піце, тату, піце.

— Дык яна ж парожняя.

— З поўнай кожны вып'е, а вы выпіце з парожняй.



*Па заказу антрапалагічнага музея.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Міраславы Рэмеш з Нурца і Галіны Ювэюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## Melodia miłości

tekst polski
**W. Filipowski, P. Kaczkowski**
**śpiewa Zespół 2+1**

Chciałbym takie miejsce mieć
Gdzie mógłbym być zupełnie sam
Bez wspomnień tamtych dni
Ale gdy muzyka gra
Powraca urok tego dnia
Gdy miłość dałeś mi.
Darling I do really love you
To znaczy kocham cię
Sweet heart I do really need you
Bardziej niż o tym wiesz
Love you with my every heart-beat
To znaczy sercem mym
Wróć do mnie tu
I zostań znów
Melodia moich dni
Chciałbym takie miejsce mieć
By smutki, dumę ukryć gdzieś
Bo dość już siebie mam
Nie wiem gdzie zrobiłem błąd
Więc powiedz jak naprawić go
Bym dłużej nie był sam.






### ВОСЬ ГЭТА ПАМЯЦЬ

Геніяльны шахматыст Аляксандр Алёхін (1892-1946) валодаў надзвычай вострай памяццю. Аднойчы ў прафесара П. Цітовіча, дзе быў Алёхін, хтосьці прапанаваў праверыць чутку аб незвычайнай памяці Аляксандра. Гаспадар узяў кнігу і, раскрыўшы яе, падаў Алёхіну. Той мінуты 3-4 глядзеў у тэкст, а пасля, вярнуўшы кнігу гаспадару, упэўнена і хутка ўзнавіў паўтары старонкі тэксту, не дапусціўшы ніводнай памылкі.

### ТАКІ САМЫ

Іспанскі пісьменнік Бласка Ібан'ес спыніўся ля дошкі аб'яў. Ён не змог разабраць ні радка, бо забыў дома акуляры.

— Прашу вас, прачытайце, што тут напісана, — папрасіў ён мужчыну, які стаяў побач.

— Выбачайце, — адказаў той, — але я такі ж пакрыўджаны лёсам, як і вы. Я таксама не ўмею чытаць.

### РЭЦЭНЗІЯ

Французскі пісьменнік Фонтэнэль так ацаніў кнігу „Элементы геаметрыі бясконцага":

— Гэты твор — настолькі мудрагелісты, што зразумець яго могуць толькі пяць або шэсць найлепшых матэматыкаў свету, прычым аўтар да іх ліку не належыць.

### ЧАГО Ў КАГО НЯМА?

— Не падабаецца мне ваша пісаніна, пане Сафір, — заявіў адзін бяздарны літаратар. — Вы пішаце за грошы, а для мяне пісаць — справа гонару.

— Кожны, — заўважыў Сафір, — шукае тое, чаго ў яго няма!




**Парада бацькам і выхавацелям: дзяцей не трэба біць, хіба толькі ў парадку самаабароны.**